№ 7 (130)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Травень 2012 г.

## У ЧАКАННІ ШЧАСЦЯ І 500 ДАЛЯРАЎ



Як заявіла старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва Магілёўскага аблвыканкама Святлана Тарасенка, сярэдні заробак у сакавіку месяцы ў Магілёўскай вобласці склаў 2 866 600 беларускіх рублёў альбо 360 даляраў ЗША. Па ўзроўню заробкаў Магілёўская вобласць перамясцілась з апошняга месца на трэцяе ў нашай краіне.

Святлана Тарасенка таксама парадавала жыхароў Магілёўшчыны расповедам пра тое, што сярэдняя заработная плата ў Магілёўскай вобласці да канца года складзе аж 478,8 даляраў ЗША ў эквіваленце. Мне нават захацелась змахнуць скупую мужчынскую слязу ад шчасця, што нас чакае такая светлая перспектыва.

Праўда, калі я крыху падумаў галавой і ўзгадаў усе шматлікія абяцанкі, якія давалі не менш шматлікія беларускія чыноўнікі напярэдадні разнастайных выбарчых кампаній, плакаць ад радасці мне чамусьці расхацелась.

Узгадалась 29 красавіка 2008 года,- калі кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка выступаў з штогадовым пасланнем перад дэпутатамі Нацыянальнага Сходу. Нават склалася адчування нейкага "дэ жа вю", бо гэта ж самае кіраўнік краіны рабіў 8 траўня 2012 года. Успомнілась, як Аляксандр Рыгоравіч палымяна распавядаў аб нашым цудоўным жыцці і нашай светлай і радаснай будучыні. Памятаю, як таксама навярнулісь слёзы шчасця на вочы пасля звароту Рыгоравіча да тагачаснага прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага:

"– Сергей Сергеевич, надо возвращаться к требованию повышения заработной платы. Другого пути нет. На конец пятилетки (2010 год – С. С.) нам надо заработную плату довести, боюсь говорить, до 700 долларов, никуда не денемся. 500 долларов будет мало. Надо 700 – среднюю зарплату по стране".

Праўда, чамусьці ў 2011 годзе плакаць мне, як і шматлікім іншым беларусам, давялось ужо зусім па іншых чынніках, ад падзення заробкаў і шалёнага росту коштаў на самае неабходнае…

У штогадовым пасланні 8 траўня 2012 года да дэпутатаў Нацыянальнага Сходу Аляксандр Лукашэнка зноў паабяцаў ашчаслівіць беларусаў высокімі заробкамі. Праўда, на гэты

*(Пачатак. Заканч. на стар. 2)*

## "МЕТАЛІСТАЎ" УСЁ БОЛЬШ

Супрацоўнікі Бялыніцкай ДАІ сумесна з калегамі з крымінальнага вышуку 7 траўня ў 15-00 затрымалі на вуліцы вёскі Вялікі Трылесін аўтамабіль "ГАЗ-3307", за рулём якога знаходзіўся непрацуючы бялынічанін 1962 г. н. У кузаве аўтамабіля знаходзілась каля адной тоны металалому, ніякіх суправаджальных дакументаў у кіроўцы не было. Як паведамляе інтэрнэт-сайт УУС Магілёўскага аблвыканкаму, аўтамашына з грузам была дастаўлена ў бялыніцкі РАУС, дзе зараз праводзіцца праверка.

Ну а супрацоўнікі АБАЗ Быхаўскага РАУС 3 траўня ў 1-00 ночы здолелі паймаць больш значны ўлоў. Яны затрымалі на трасе "Быхаў-Вараніно"аўтамашыну "МАН-19361", у кузаве якой быхаўчанін 1979 г.н. перавозіў аж 10 450 кг металалому на суму 17,5 млн. рублёў. Суправаджальных дакументаў у кіроўцы таксама не было, таму метал у яго забралі.

Усю Беларусь зараз ахапіла нейкая металічная "ліхаманка". У Бялыніцкім раёне "старацелі" дабываюць метал дзе можна і дзе нельга, бо за яго зараз плацяць нядрэнныя грошы. Што казаць, калі ў вёсках павывалаклі ўвесь лом каляровых і чорных металаў нават з пустуючых двароў, гаспадары якіх не жывуць на пастаяннай аснове. Затое на пляцоўцы для захоўвання металалому райспажыўтаварыства можна пабачыць самыя дзіўныя рэчы немалой каштоўнасці…

***Ірына Беганкіна***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# У ЧАКАННІ ШЧАСЦЯ І 500 ДАЛЯРАЎ

(Заканч. Пачатак на стар. 1)




раз лічба ў 700 даляраў ужо не ўзгадвалась, кіраўнік краіны палічыў, што для поўнага шчасця беларусам дастаткова паабяцаць 500. Прабачце, чэсна кажучы, мне стала смешна, бо сярод жыхароў Бялынiччыны знайшлiсь людзi, якiя ў гэтыя абяцанкi ў чарговы раз паверылi i з сонечнай усмешкай распавядаюць пра будучае вясёлае жыццё. Яны чамусьцi забылiсь пра тое, што гэтай восенню зноў жа чакаюцца выбары ў Палату прадстаўнiкоў Нацыянальнага Сходу i лепш за ўсё гэту сiтуацыю характарызуе беларуская народная прымаўка "абяцанкi-цацанкi, а дурню радасць"…

Тым больш, што ў штогадовым пасланнi Аляксандра Лукашэнкi 8 траўня прагучала яшчэ адно абяцанне, якое нашы працаўнiкi ад iдэалогii iмкнуцца не ўзгадваць. Кiраўнiк краiны заявiў аб неабходнасцi паступовага падвышэння ўнутраных коштаў на прадукты да ўзроўню суседнiх дзяржаў, дзе, па яго словах, прадукты харчавання ў 2 i больш разы даражэй.

Вось у тым, што кошты на самае неабходнае будуць падвышацца шалёнымi тэмпамi, я якраз не сумняваюсь. Праўда, мне зноў захацелась засмяяцца, калi пачуў пра тое, што прадукты харчавання ў суседнiх краiнах даражэй у два разы. У апошнiя месяцы давялось пабываць у Украiне, Польшчы i Лiтве, магу сказаць, што кошты на ежу прыкладна такiя, як у Беларусi. Малако i малочныя прадукты каштуюць крыху даражэй, затое мясныя вырабы i рыба танней. Што сапраўды каштуе нашмат даражэй, дык гэта гарэлка, палiва i цыгарэты. Затое запытайцесь у прадпрымальнiкаў, па якiм кошце яны набываюць у "праклятых буржуiнаў" электронiку i вопратку,i вам адразу стане зразумела, чаму для iх не стаў актуальным лозунг "купляйце беларускае"…

І Рыгоравiч чамусьцi таксама забыўся ўзгадаць, якi сярэднi заробак у "праклятых буржуiнаў"…

Ну а ў жыхароў Бялынiцкага раёна сярэднi заробак у народнай гаспадарцы, па дадзеных нашых мудрых статыстыкаў, склаў у сакавiку 2012 года 2 572 100 беларускiх рублёў. У параўнаннi з адпаведным перыядам мiнулага 2011 года тэмп росту намiнальнай налiчанай заработнай платы склаў аж 198,3 %.

Зноў захацелась заплакаць ад шчасця, прачытаўшы iнфармацыю бялынiцкiх статыстыкаў, аднак пасля зайшоў у краму, паглядзеў, у колькi разоў выраслi кошты на прадукты i перадумаў. Таму што захацелась перайсцi на рускую мову, бо, як вядома, у беларускай матаў няма… Што на гэтыя грошы зараз купiш…

Тым больш, не зусiм зразумела, як у чараўнiкоў ад статыстыкi гэта сярэдняя лiчба атрымалась. У спiску вакансiй па Бялынiцкаму раёну, размешчаным на iнтэрнэт-сайце Мiнiстэрства працы ўжо ў траўнi месяцы, калi заробак павiнен быць яшчэ больш высокi, з 60 прапануемых рабочых месцаў толькi на 4 пасадах абяцаюць заробак у 2 000 000 рублёў. Усе iншыя працадаўцы прапануюць нашмат менш, ад 1 200 000 да 1 600 000 рублёў у асноўнай сваёй масе. Больш за 2 мiльёны не абяцае сваiм новым працаўнiкам нi адна бялынiцкая арганiзацыя…

Таксама нагадаю паважаным чытачам адну старую аксiёму – рост заработнай платы не павiнен пераганяць рост вытворчасцi працы. Што адбываецца ў iншым выпадку, вы можаце ўзгадаць па мiнулым 2011 годзе. Калi прачытаеце афiцыйныя дадзеныя пра тое, што валавы рэгiянальны прадукт Магiлёўскай вобласцi ў першым квартале бягучага года склаў 101,2 % у адносiнах да адпаведнага мiнулагодняга перыяду, то зразумееце, шаноўныя чытачы, чаму мне расхацелась плакаць ад шчасця з-за мяркуемага падвышэння заробкаў у Магiлёўскай вобласцi.

Пахмелле ад чарговай эйфарыi чыноўнiкаў будзе вельмi цяжкае…

*Сяргей Семяновіч*

## У Магілёве адмянілі прэзэнтацыю кніг фантаста Сяргея Антонава

Яна мела адбыцца ў гарадской бiблiятэцы iмя Карла Маркса 16 траўня.

Па словах Антонава, 7 траўня яму патэлефанавалi з бiблiятэкi i паведамiлi, што сустрэчы не будзе, перадае Радыё "Свабода". Дарэчы, iнiцыятарам сустрэчы выступала сама бiблiятэка. На думку пiсьменнiка, супрацоўнiкi бiблiятэкi даведалiся, што ён уваходзiць у Партыю БНФ i пабаялiся, што на прэзентацыю ён запросiць сваiх аднапартыйцаў.

У бiблiятэцы ж гавораць, што прэзентацыю адмянiлi, бо яна накладалася на iншае мерапрыемства — з ветэранамi. Бiблiятэкары не выключаюць, што сустрэча можа адбыцца ў iншы час.

Сяргей Антонаў — адзiны беларускi аўтар, якi пiша для расiйскай кнiжнай серыi "Сусвет метро 2033". Яго творы — фантастычныя раманы. Па словах пiсьменнiка, у Маскве ў яго праходзiць на год не меней за тры прэзентацыi. Сумарны тыраж выданняў Сяргея Антонава – 260 тысячаў экзэмпляраў.

Ну што можна сказаць - маразм мацнее. Ну якую шкоду могуць прынесцi нашай уладзе фантастычныя раманы майго сябра Сяргея Антонава?

*Барыс Вырвіч*



## Акрамя ўдзелу ў “дабраахвотным” суботніку – яшчэ і па 50000 рублёў сабралі



З работнікаў культуры Магілёўскага раёна пасля ўдзелу ў “добраахвотным” суботніку збіралі дадаткова яшчэ па 50000 рублёў грошай, паведаміў інфармацыйна-грамадскі бюлютэнь Магілёўскага раёна “Справа”. Усяго на працягу красавіка ў Магілёўскім раёне адбыліся тры суботнікі, на якіх супрацоўнікі разнастайных устаноў працавалі на добраўпарадкаванні навакольнага асяроддзя.

Як піша “Справа”, калі раней збор грошай з работнікаў культуры “абстаўляўся словамі “калі ласка” і “па магчымасці”, то зараз робіцца ўсё проста: “Вы абавязаны!”. Узнікае пытанне: “Каму і што мы абавязаны?”. Ці не зашмат у нас пабораў – і латарэйкі па спісу, і прымусовая падпіска на тое, што чытаць немагчыма, і суботнікі вось гэтыя?”…

Заработная плата работнікаў устаноў культуры ў Магілёўскім раёне з’яўляецца адной з самых нізкіх сярод прадстаўнікоў іншых устаноў бюджэтнай сферы.

Пастанова Савета Міністраў РБ ад 2 красавіка 2012 г. № 295 “Аб правядзенні рэспубліканскага суботніка ў 2012 г.” рэкамендавала правесці суботнік на дабраахвотнай аснове. Па словах аднаго з работнікаў культуры Магілёўскага раёна, “слова “добраахвотна” выглядае тут неяк дзікавата, бо мы ведаем, як усё адбываецца на самой справе. І ці скончыцца гэты абсурд?”.

***Іван Барысаў***

## В городе Израиля увековечат Янку Купалу

В израильском городе Ашдод появится площадь имени классика белорусской литературы Янки Купалы.

Решение о присвоении площади имени Янки Купалы принято муниципалитетом Ашдода. Таким образом городские власти поддержали предложение посольства Беларуси в Израиле и Всеизраильского объединения выходцев из Беларуси. “Принятое решение представляет собой оценку уникальной истории добрососедских отношений белорусов и еврейской общины и приурочено к предстоящему 130-летию со дня рождения классика белорусской литературы”, сообщила БЕЛТА.

Ашдод - шестой по величине город в Израиле, расположенный на побережье Средиземного моря. Здесь проживают около 210 тыс. человек. Община выходцев из Беларуси в этом городе одна из самых больших в Израиле.

# Прадпрыемствы Бялыніцкага раёна – у ліку лепшых




Бялыніцкі “Жылкамгас” і аўтобусны парк № 7 уганараванны змяшчэннем на Дошку гонару Магілёўскай вобласці за дасягненне найлепшых паказчыкаў у працы па выніках 2011 года. Напярэдадні Першамая лепшых спецыялістаў гэтых арганізацый ушаноўвалі разам з іншымі пераможцамі ў Палацы культуры вобласці.

Прыемна, што арганізацыі нашага Бялыніцкага раёна паказваюць лепшыя вынікі ў працы сярод арганізацый Магілёўскай вобласці. Праўда, для мяне асабіста застаецца незразумелым, чаму супрацоўнікі арганізацый-пераможцаў у прыватных гутарках пастаянна скардзяцца на нізкі ўзровень заробкаў. Магчыма, гэта характар у нас, беларусаў, такі, грошай нам заўсёды не хапае.

Але існуе і іншы варыянт – заробкі ў працаўнікоў нашых перадавікоў сапраўды знаходзяцца на нізкім узроўні. Гэта дапушчэнне здаецца больш верагодным, бо, калі паглядзець, колькі прапануюць плаціць у гэтых паважаных арганізацыях, запрашаючы на вольныя вакантныя месцы праз цэнтр занятасці насельніцтва, ісці туды працаваць чамусьці не вельмі хочацца. Дарэчы, як і ў яшчэ адно наша перадавое будаўнічае прадпрыемства, узначальваемае Ганаровым грамадзянінам Бялыніцкага раёна, - ПМК-241, якое прапануе каменшчыку заробак аж у 1400000 беларускіх рублёў. Не дзіўна, што працаўнікі перадавой будаўнічай арганізацыі разбягаюцца, як пацукі з тонучага карабля, і з’язджаюць працаваць на “праклятых буржуінаў” у Расію. Хутка ў Бялыніцкім ПМК спецыялістаў застанецца больш, чым простых працаўнікоў, будзе, як у той прымаўцы, “на аднаго раба – два прараба”…

А пакуль застаецца чакаць, калі ўжо ў нас у чарговы раз будзе ўсеагульнае шчасце і шматразова абяцаны сярэдні заробак у 500 даляраў. Здаецца, у Бялыніцкім раёне чакаць гэтага давядзецца доўга…

***Вераніка Бялова***

### АНЕКДОТ ДНЯ

*Дорогие соотечественники! Мировой кризис обошел нас стороной. Но подкрался сзади именно в тот момент, когда мы наклонились, чтобы поднять упавший рубль!*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# Эксперт: Белорусы могут не $500, а 320-370 зарабатывать




*Леонид Заика*

На сегодняшний день, исходя из экономических показателей, белорусы могут не 500, а 320-370 долларов зарабатывать. Это реальный уровень, соответствующий производительности труда, соответствующий способности менеджмента. И если бы убрать «нефтяной фактор», то так бы и было.

Так корреспонденту сайта «Товарищ.online» прокомментировал руководитель Аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико заявление Александра Лукашенко о выходе к концу года на цифру «500 долларов». «Я хочу, чтобы средняя зарплата к концу года была 500 долларов: поэтому, если страна у нас управляемая, я требую это сделать, но за счет производительности труда. Денег никто не напечатает», - заявил Александр Лукашенко. По его словам, Правительство заверяет, что «темпы роста экономики позволяют это сделать».

- Ситуация с зарплатами стала неприемлемой уже в начале этого года. Не секрет, что зарплата в России в три раза выше, чем в Беларуси. Беларусь – это сказочная страна, где все хорошо, где не воруют, где нет коррупционеров, а зарплата маленькая. Естественно, люди начали сравнивать…

*- … и сравнив, начали бежать из страны на заработки.*

- Естественно, это вызывает серьезный отток кадров. Страна начинает проходить фазу, как это было в дореволюционное время, - эмиграция становится способом для выживания. Номенклатура должна менять ситуацию. Потому что белорусы не понимают, как можно получать в три раза меньше и иметь долгов по 3,4 тысячи долларов на человека. Это все наша власть сделала за все годы своего правления.

*- Насколько можно повысить зарплату?*

- ВВП в этом году вырос на 3%. В соответствие с тем, как профессора учили Мясниковича, Лукашенко, Русого, Козика, Тозика и пр., если ВВП вырос, к примеру, на 3%, то чтобы избежать девальвации, инфляции, больших диспропорций, доходы можно увеличить лишь на 75% от уровня прироста ВВП.

*- Но это же мизер, никак не 500 долларов, о которых говорит президент.*

- Предложение о том, что доходы должны стать выше – это все тюлька! Когда кто-то говорит, что при росте ВВП на 3% рост зарплаты в эквиваленте вырастет на 150 долларов, то есть на 50%, я могу сказать только одно: садись – два! Иди готовься дальше! Диагноз номенклатуре сегодня надо ставить совершенно обычный: белорусская власть, игнорируя и уничижая экономическую науку, осуществляет волюнтаристский курс. Конечно, можно развалить Нархоз (сегодня – Белорусский государственный экономический университет), сделать из него экономический колледж. Можно из Академии наук сделать хоспис. Но закончится все это тупиком или продажей страны.

*- Маленькая зарплата – не нравится, большая зарплата – не нравится…*

- Надо понимать следующее. Увеличили зарплату, обобрали предприятия, финансовые потоки направили в сторону потребления. Но когда увеличивается зарплата, население начинает больше покупать вкусных апельсинов, мандаринов… Я вот сейчас наблюдал картину, как бабушки набирали бананы, ананасы, даже на цены не глядя, то есть население начинает покупать больше импорта. Начинаем покупать больше импорта, торговый баланс становится отрицательным. За этим последует обвал курса национальной валюты.

*- Как в прошлом году?*

- Простой вопрос: почему в прошлом году рубль в три раза девальвировали? Да потому, что вернули все на круги своя. На сегодняшний день, исходя из экономических показателей, белорусы могут не 500, а 320-370 долларов зарабатывать. Это реальный уровень, соответствующий производительности труда, соответствующий способности менеджмента. И если бы убрать «нефтяной фактор», то так бы и было. Поэтому, отвечаю на вопрос, за счет чего может увеличиться зарплата – за счет россиян. Будем доить русскую корову: они дают нам нефть, мы ее перерабатываем и продаем немцам и французам, которые потом присылают нам извещения о санкциях.

***Федор Костров, «Товарищ.online»***

## ІНФЛЯЦЫЯ З ПАЧАТКУ ГОДА СКЛАЛА 6,8%

1,7% склаў у красавіку рост спажывецкіх цэн у Беларусі. З пачатку года цэны павялічыліся на 6,8%, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. У студзені цэны ўзраслі на 1,9%, у лютым — на 1,5%, у сакавіку — таксама на 1,5%.

Харчаванне ў красавіку падаражэла на 1,8% (за чатыры месяцы — на 6,9%), у тым ліку алкаголь — на 5,6%, агароднiна — на 5%, яйкі — на 2%, мяса і птушка — на 1,9%, малако і малочныя прадукты, хлеб і хлебабулачныя вырабы — на 1,5%.

Цэны на нехарчовыя тавары павялічыліся на 1,2% (5,3%). У лідарах — бензін (5,5%), веласіпеды і матацыклы (2,3%), медыкаменты (2,1%), будматэрыялы (1,5%).

Тарыфы на платныя паслугі насельніцтву павысіліся на 2,5% (9,9%). Найбольш за ўсё падаражэлі праезд у аўтамабільным транспарце прыгарадных зносінаў (20%), у гарадскім транспарце (17,4%), тэхабслугоўванне жылых памяшканняў (12,9%), санаторна-аздараўленчыя паслугі (6,7%).

# НА МАЛОЙ РАДЗІМЕ АЛЯКСАНДРА РЫГОРАВІЧА ЗНОЎ КАРУПЦЫЙНЫ СКАНДАЛ



У Шклоўскім раёне Магілёўскай вобласці разгараецца чарговы карупцыйны скандал, паведамляе абласная незалежная газета "Магілёўскі Выбар".

Згодна інфармацыі "Магілёўскага Выбара", "Нядаўна ў Шклове пацярпеў ад сваёй хцівай дзейнасці прадпрымальнік, які займаўся экспартам калійных ўгнаенняў (справа не ў прозвішчы, бо ён мог і не быць ініцыятарам здзелак). Хлорысты калій, такі неабходны шклоўскім палеткам, перапраўляўся за мяжу, не слаба папаўняючы кішэні шклоўскіх хітруноў ад прыбытковага экспарту. Хітрасць у тым, што ўгнаенні купляліся па цане для сельгаспрадпрыемстваў, якая ў разы меней цаны экспартнай, а прадаваліся за валюту без асаблівага бухгалтарскага ўліку, бо частка ўгнаенняў была проста скрадзена асобнымі кіруючымі кадрамі.

Фасоўка экспартнага прадукта праводзілася на гарадзецкім аэрадроме, які, слава богу, яшчэ дзейнічае. Але ў нашым выпадку гэта месца дзеяння можа адыграць негатыўную ролю для цяперашніх кіраўнікоў і спецыялістаў "прэзідэнцкага" саўгаса і не толькі.

Тыя сумы грошай, якія былі канфіскаваны ў ходзе аператыўна-вышуковых дзеянняў (непасрэдна ў час захопу пры злачынцы, які дастаўляў "даход" ў Шклоў, знаходзілася 120 000 даляраў ЗША) і тая шырыня бізнэсу, якая суправаджала дзейнасць прадпрымальніка, пацвярджаюць маштабы крадзяжу дзяржаўных сродкаў".

Неабходна адзначыць, што гэта далёка не першая карупцыйная справа, якая расследуецца ў Шклоўскім раёне зараз. У мінулым годзе на малой радзіме Аляксандра Лукашэнкі знікла 17 мільярдаў рублёў бюджэтных грошай, накіраваных, па незразумелых для любога спецыяліста прычынах, на закупку племяннной жывёлы ў такой "развітой" у галіне жывёлагадоўлі краіне, як Сербія. У выніку бюджэтныя грошы зніклі, Следчы камітэт вядзе расследванне, а ў Шклове працягваюць абмяркоўваць буйнейшую фінансавую аферу ў гісторыі раёна. Спадзеву на вяртанне грошай зусім няшмат, лічаць дасведчаныя спецыялісты.

Як з іроніяй адзначае газета "Магілёўскі Выбар", "калі прынцыпова падыйсці да сваіх абавязкаў, то паўраёна перасадзіць можна. Але ж сярод чыноўнікаў няма ніводнага апазіцыянера, адны толькі чальцы прапрэзідэнцкай "Белай Русі" (ну і словазлучэнне!), рэдка, але пракідваюцца і чальцы БРСМ. Каго ж тады садзіцьу турму, калі садзіць, атрымліваецца, што некага".

Не радуе і агульная сітуацыя са злачыннасцю, якая склалася ў Шклоўскім раёне ў 2012 годзе. За 3 месяцы на тэрыторыі раёна зарэгістраваны 92 злачынствы, што на 8,2% больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года (2011 – 85). Асобы, вінаватыя ў здзяйсненні злачынстваў, устаноўлены ў 67 выпадках. Узрасла і колькасць злачынстваў, зарэгістраваных па лініі крымінальнага вышуку, якіх было здзейснена 67, з іх 44 раскрыта.

*Сяргей Семяновіч*

## КДК ПРАВЕРЫЎ БЯЛЫНІЦКІЯ МАГАЗІНЫ

Супрацоўнікі Камітэта дзяржкантролю Магілёўскай вобласці ў чарговы раз апублікаваў спіс магазінаў, у якіх былі знойдзены прадукты з пратэрмінаваным тэрмінам захоўвання. Усяго ў апошні спіс трапілі 107 гандлёвых аб'ектаў з дваццаці раёнаў вобласці і гарадоў Магілёў і Бабруйск. У нашым Бялыніцкім раёне супрацоўнікі КДК таксама знайшлі несумленных прадаўцоў прадуктамі. У прыватнасці, адзін раз прадавалі прадукты з пратэрмінаваным тэрмінам прыдатнасці ў магазіне "Паркавы" па вуліцы Дайнэка, які належыць Бялыніцкаму райста. У універсаме "Ласточка" таго ж Бялыніцкага райста спецыялісты дзяржкантролю пратэрмінаваныя прадукты знаходзілі двойчы. Ну а найбольш вызначыўся магазін "Асарці" ПГУП "Белыя ночы", дзе тавары с пратэрмінаваным тэрмінам захоўвання знаходзілі тройчы.

Добра, што спецыялісты камітэта дзяржкантролю правяраюць нашых "чэсных" гандляроў, бо рэнамэ фірмы для пераважнай большасці з іх з'яўляецца пустым гукам. Сам не так даўно набыў у той жа "Ласточке" фасаваныя мандарыны, большая частка якіх аказаліся сапсаванымі. Канешне, вяртаць іх з Машчаніцы назад у Бялынічы не паехаў, аднак высновы аб сумленнасці нашых гандляроў для сябе асабіста зрабіў. Чамусьці зараз зусім не ўспрымаюцца артыкулы калег з "Зары над Друццю" пра гераічную працу на карысць бялынічан супрацоўнікаў нашага райспажыўтаварыства…

*Багдан Іваноў*

## ЯКІМ ЧЫНАМ «ЗАРАБЛЯЮЦЬ» ЛОЎКІЯ СТАРШЫНІ СВК



Памятаеце гісторыю старшыні сельгаскааператыва з Дзятлаўшчыны, у якога скралі дзясяткі тысяч даляраў?

Напрыканцы красавіка КДБ заявіў пра раскрыццё злачыннай групоўкі, якая вывозіла ў краіны ЕС калійныя ўгнаенні. У паведамленні гаворыцца, што ўгнаенні афармляліся для атрымання беларускімі гаспадаркамі, вывозіліся ў розныя раёны краіны, а потым па падробленых дакументах вывозіліся за мяжу. Камітэт пакуль не паведамляе, кім з'яўляюцца затрыманыя. Аднак можна дапусціць, што да справы маглі быць датычныя кіраўнікі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, на імя якіх першапачаткова афармляўся груз.

На просьбу рэдакцыі галоўны спецыяліст аднаго з сельгаскааператываў расказаў, якім чынам старшыні і галоўныя спецыялісты СВК атрымліваюць «шэрыя» прыбыткі. За 2–3 гады кіраўнік моцнага калгаса можа назбіраць пару дзясяткаў тысяч, кажа ён.

### Сумленны і сумнеўны

Існуе два варыянты дасягнення поспеху — сумленны і сумнеўны.

Разгледзім першы. У моцных гаспадарках старшыні атрымліваюць 5–6 мільёнаў рублёў у месяц (пры сярэднім заробку па гаспадарцы да 1,7 мільёна). Калі ў такога старшыні яшчэ і жонка ў апараце працуе намесніцай ці галоўным эканамістам (такое часта сустракаецца), то яе заробак будзе адрозніваецца ад заробку мужа працэнтаў на 20%. Калі такая сям'я будзе ашчаджаць на прадуктах — усё ж сваё, то назбіраць можна $ 10 тысяч у год.

Кіраўнікі слабых гаспадарак задавольваюцца сумамі ў 2–4 разы сціплейшымі.

Другі спосаб прадугледжвае атрыманне прыбыткаў з розных крыніц. Не трэба нагадваць, што ён незаконны.

Адна з галоўных крыніц несумленных прыбыткаў — адкаты. Набыццё ветпрэпаратаў, пестыцыдаў, запчастак у абранага пастаўшчыка могуць прыносіць старшыні 10–15% «узнагароды» ад памеру цаны паставак. Па выніках года на маніпуляцыях з запчасткамі можна «зарабіць» да 30 мільёнаў рублёў, на ветпрэпаратах — да 20 мільёнаў.

### Як зарабляюць на мясе

Здаровую адкормленую карову ці бычка можна «ўсушыць» удвая, занізіўшы ў дакументах яе рэальную вагу і стан.

Палову мяса афіцыйна прадаць шараговаму супрацоўніку прадпрыемства ці староннім асобе, а рэшту — набліжанаму да «шэрага» бізнэсу камерсанту.

Выглядае, аднак, што гэты спосаб нажывы даволі рызыкоўны. Бо ў працэс даводзіцца прыцягваць супрацоўнікаў фермы, ветдоктара, камерсанта. І справа тут не толькі ў тым, што старшыні даводзіцца дзяліць «ганарар», а ў наяўнасці дадатковых носьбітаў інфармацыі.

Схема продажу гародніны, найперш бульбы, даволі простая: набываеш па заніжанай цане і прадаеш па рынкавай.

### І на пестыцыдах

Галоўныя спецыялісты маюць доступ да хімікатаў. Тут аддаецца перавага пестыцыдам: тара значна меншая, цана высокая. Прэпарат спісваецца як выкарыстаны. Але частка прытойваецца і прадаецца за 50% ад рынкавай цаны.

Наш суразмоўца перакананы: адзіны спосаб выкараніць карупцыю ў сельскай гаспадарцы — развіваць фермерства.

Ні высокія заробкі для кіраўнікоў, ні дамоклаў меч праверак і арыштаў выбудаваную сістэму «каб заўсёды жыць у шчасці…» не зламаюць.

***Сямён Печанко, «Наша Ніва»***

## АЛЯКСАНДР СІНКЕВІЧ: БЕЛАРУСАМ ТРЭБА ЧАКАЦЬ ПАСКОРАНАГА РОСТУ КОШТАЎ

Эканаміст Аляксандр Сінкевіч называе павышэнне коштаў «прадказальным». Эксперт перакананы, што бліжэйшым часам беларусы яшчэ не раз пабачаць новыя цэннікі ў крамах.

Аляксандр Сінкевіч звяртае ўвагу на тое, што даражэюць тавары шырокага спажывання і што такім чынам найбольш адчувальна гэтыя павышэнні б'юць па самых малазабяспечаных грамадзянах. «Шмат якія эканамічныя праблемы перакладаюцца на іх замест таго, каб размеркаваць больш прапарцыйна паводле багацця насельніцтва. Можна было б перакласці цяжар крызісу на больш забяспечаныя слаі насельніцтва, але гэтага не назіраецца», – падкрэсліў суразмоўца.

Максімальныя адпускныя цэны на хлебабулачныя вырабы выраслі на 5 %, а на малако, кефір, смятану і тварог – адразу на 10 %; мінімальны кошт моцных алкагольных напояў павысіўся ўдвая. Гэта прадугледжвае пастанова Міністэрства эканомікі № 36 ад 26 красавіка.

«Бліжэйшым часам будзем назіраць паскораны рост коштаў на спажывецкія тавары і на некаторыя іншыя – перадусім на энерганосьбіты, бензін ды іншае паліва, на абслугоўванне кватэраў, – гаворыць Аляксандр Сінкевіч. – Беларусам трэба да гэтага рыхтавацца і ведаць, што сёлета мы атрымаем тыя наступствы фінансавага крызісу, які цяпер скончыўся, але дасягне грамадзянаў цяпер».

***belsat.eu***



# КУЛЬТ ЧАРКИ И ШКВАРКИ



Каждый четырнадцатый рубль идет в бюджет от водки, пива, “чернил”. Но потери от алкоголизма превосходят всю прибыль от продажи дешевых алкогольных напитков.

По самоубийствам мы в мировых лидерах, почти 2 тысячи смертей происходят в результате алкогольных отравлений… В результате решения алкогольной проблемы увеличилась бы продолжительность жизни мужчин, и сократилось бы количество дней на бюллетене по болезни.

Мы употребляем 15 литров алкоголя на душу населения. Это учитывая младенцев, таких как я, который не пьют совсем. А известно, что по расчетам Всемирной организации здравоохранения, 8 литров - граница, после которой начинается генетическое поражение нации.Каждый четвертый в сельском хозяйстве и каждый пятый в промышленности - хронические алкоголики.

Власть же больше руководствуется политическим выигрышем.Те, кто пьют, ничем не интересуются. Наливай электорату - и ему будет все равно. К этноциду присоединяется политика спаивания.

Какие шаги нужно сделать в первую очередь? В принципе, есть европейские нации, которые пьют даже больше нас. Речь идет о проблеме культуры употребления спиртных напитков. Второй шаг - ликвидация алкорекламы. Третий - пропаганда здорового образа жизни: не ледовые дворцы нужно возводить, а организовывать широкое физкультурное движение.

*Михаил Залеский*

## ОТКУДА У КОЗИКА КОСТЮМ ЗА $5 000?

Блогеры уличили лидера Федерации профсоюзов Беларуси в нескромности, обнаружив на нем костюм Roy Robson ориентировочной стоимостью в $5 000.

“Господин Козик носит костюм Roy Robson... это же сколько надо получать профсоюзному боссу, чтобы такое покупать...” - написал по этому поводу в своем Фейсбуке фотокорреспондент Дмитрий Брушко.

В изящном праздничном костюме Козик был замечен на первомайском митинге ФПБ.

Любопытно, что 3 мая на встрече с Александром Лукашенко лидер ФПБ много говорил о трудностях, с которыми сталкиваются белорусские трудящиеся.

По словам Козика, профсоюзы обеспокоены тем, что рост цен иногда опережает рост доходов: “И это неправильно, поскольку есть категория людей, которые живут только на доходы, и они у них не очень велики. И в этом плане я сказал, что Федерация профсоюзов всегда будет отрицательно относиться к таким решениям правительства”.

# ПЁТР МІГУРСКІ: КАЛГАСЫ – ГЭТА «ЧОРНАЯ ДЗІРА» ДЛЯ ДЗЯРЖАВЫ



Падчас сваёй паездкі па Меншчыне Аляксандр Лукашэнка заявіў, што лічыць магчымаю прыватызацыю сельгаспрадпрыемстваў. Кандыдат эканамічных навук, адмысловец у сельскай гаспадарцы Пётр Мігрускі заўважае, што калі дзяржава трапляе ў складаную сітуацыю, тады чынавенства звяртаецца да рынкавых метадаў гаспадарання. “Прыватызацыя сельгасвытворчасці мае перспектыву. Іншая справа, што мы спазніліся і шлях гэты будзе цяжкі”, – мяркуе эксперт.

“Пройдзе некалькі гадоў і мы з вамі заўважым, што жыць можна без калгасаў, што прадукцыя больш чыстая, больш якасная і не такая дарагая, – гаворыць Пётр Мігурскі. – Чаму цяпер выспела неабходнасць прыватызацыі? Калгасы – гэта “чорная дзіра” для дзяржавы і для кожнага грамадзяніна Беларусі, бо ўсё непад’ёмна дорага і не так якасна, як гэта пазіцыянуюць улады. Мы дайшлі да мяжы. Цягнуць з прыватызацыяй сельгасвытворчасці ўжо немагчыма”.

Аднак калі прыватызацыя сапраўды распачнецца, хто стане новым гаспадаром сельскай гаспадаркі? Аляксандр Лукашэнка заявіў, што перавага будзе аддавацца айчыннаму бізнесу. Магчыма, значная частка сельгаспрадпрыемстваў трапіць у рукі “вертыкалі”. „Хутчэй за ўсё, “вертыкаль” ужо адчула хуткі канец сённяшняй улады. І яна імкнецца “скочыць у апошні вагон”, каб мець нейкую ўласнасць і забяспечыць існаванне не толькі сабе, але і многім пакаленням, што будуць карыстацца вынікам гэтай прыватызацыі”, – заявіў Пётр Мігурскі.

Адмысловец упэўнены, што ў рынкавай мадэлі беларускай сельгасвытворчасці знойдзецца месца і для мармуровага мяса, і для гадоўлі авечак, чаго так хоча цяперашні кіраўнік дзяржавы. Вядома, калі на гэта будзе попыт. “Што трэба для таго, каб у нас сельская гаспадарка развівалася, – дык гэта трэба гэтым уладам сысці. Добраахвотна сысці, не перашкаджаць людзям жыць. Будзе ў нас дэмакратыя – будуць і авечкі”, – дадаў сп. Мігурскі.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# НА ЎЕЗДЗЕ Ў БЯЛЫНІЦКІ РАЁН ПАБУДУЮЦЬ ГАТЭЛЬ, АЗС І СТАЯНКУ ДЛЯ АЎТАМАБІЛЯЎ



На ўездзе ў Бялыніцкі раён з боку Мінска пачалось будаўніцтва аўтазаправачнай станцыі, гасцініцы і стаянкі для аўтамабіляў. Тэмпы работ апошнім часам значна паскораныя, бо, згодна распараджэння кіраўніцтва краіны, рэканструкцыя аўтадарогі М4 Мінск-Магілёў павінна быць завершана к 1 верасня гэтага года.

Зараз на будаўніцтва аўтамагістралі прыцягнуты дадатковыя магутнасці з самых розных будаўнічых і дарожных арганізацый з усіх абласцей краіны, на рэканструкцыю дарогі выдзяляюцца значныя дадатковыя фінансавыя сродкі. Па неафіцыйнай інфармацыі, рашэнне паскорыць будаўніцтва дарогі Мінск-Магілёў звязана з маючымі адбыцца восенню гэтага года "Дажынкамі", якія будуць праходзіць у горадзе Горкі Магілёўскай вобласці. Госці галоўнага беларускага свята павінны наведаць яго без усялякіх перашкод ужо па новай аўтамагістралі. Таму супрацоўнікі будаўнічых і транспартных арганізацый на будоўлі працуюць зараз без выходных.

Неабходна адзначыць, што такі наплыў будаўнікоў і дарожнікаў вельмі выгодны нашаму Бялыніцкаму раёну. Заробленыя грошы камандзіраваныя спецыялісты пакідаюць у крамах раёна, што дазваляе выконваць план па тавараразвароту.

А мясцовыя аўтадарогі, якія былі парушаны рухам вялікагрузных аўтамабіляў, дарожнікі абяцаюць аднавіць у абавязковым парадку. Будуць прыведзены ў парадак і з'езды з прылягаючымі да дарогі тэрыторыямі.

Выгодны наплыў камандзіраваных і жыхарам сельскіх населеных пунктаў нашага раёна. Дзякуючы шчыльнаму супрацоўніцтву з імі многія вяскоўцы без асаблівых праблем забяспечылі сябе дровамі на ацяпляльны сезон, хоць звычайна гэта пытанне дастаўляе шмат праблем бялынічанам. Задаволены і ўладальнікі аўтамабіляў, бо могуць набыць паліва для сваіх "жалезных коней" значна танней. Праўда, такая камерцыя не зусім адпавядае літары закона, аднак навошта тады ў нашай краіне самыя вялікія ў Еўропе праваахоўныя органы з шматлікімі кантралюючымі арганізацыямі, як не для таго, каб гэты працэс кантраляваць…

Так што пасля заканчэння рэканструкцыі аўтамагістралі М4 горш стане як раённаму бюджэту, так і простым жыхарам раёна. Тым больш, што за ўсё добрае ў нашым жыцці патрэбна плаціць і з 1 ліпеня 2013 года запланавана зрабіць праезд па асноўных аўтамагістралях нашай краіны ўжо платным, пакуль што для ўсіх грузавых аўтамабіляў з дапусцімай агульнай масай звыш 3,5 т і легкавых аўтамабіляў, акрамя аўтамабіляў Мытнага саюза.

*Іван Барысаў*

## Только факты

В 2011 году на территории Могилевской области зарегистрировано 797 дорожно-транспортных происшествий, в которых 132 человека погибли и 922 получили травмы. По вине нетрезвых водителей произошло 132 аварии, в них 36 человек погибли и 175 получили различные травмы.

## В МОГИЛЕВЕ ПО ДНЕПРУ НАЧАЛИ КУРСИРОВАТЬ ДВА ПРОГУЛОЧНЫХ ТЕПЛОХОДА

Как сообщил БелаПАН заместитель начальника предприятия "Речной порт" Сергей Веретенников, в Могилеве с начала мая по Днепру начали курсировать два прогулочных теплохода — "Волна" и "Заря".

Водные прогулки пользуются популярностью у могилевчан. За прошлогоднюю навигацию, начавшуюся в 20-х числах мая и закончившуюся в середине сентября, на теплоходах прокатились около 6 тысяч человек.

В этом году какие-либо изменения в водных прогулках не планируются. Обслуживать отдыхающих будут те же теплоходы — открытого типа "Волна" и закрытого типа "Заря". Продолжительность прогулки — около 40 минут. Стоимость для взрослого на "Волне" — 18 тыс. рублей и 22 тыс. — на "Заре". Дети до семи лет обслуживаются бесплатно. Пенсионерам и школьникам предоставляются скидки.

*Белорусские новости*

## 22-летняя мать утопила новорожденную дочку

Бобруйским районным отделом Следственного комитета в отношении 22-летней жительницы д. Слобода возбуждено уголовное дело за убийство новорожденной дочери.

Злоумышленница, мать 3-летнего сына, растить второго ребенка, судя по всему, не хотела. На учете у врача-гинеколога не состояла, во время беременности начала подрабатывать грузчиком. Чтобы никто не догадался о ее положении, стала носить корсет.

Ребенок появился на свет в бане. Молодая мама сама перерезала пуповину, а новорожденную девочку завернула в пакет и опустила в бочку с водой.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 09.05. 2012 г. у 22-00.